# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№ 1 (176)
студзень 2017

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

## У НУМАРЫ:



**У ЗША развіталіся з Антонам Шукелойцем**
14 студзеня, у Нью-Джэрсі адбылося пахаванне грамадскага дзеяча, аднаго з лідараў беларускай эміграцыі ў ЗША Антона Шукелойца, які памёр на 102-м годзе жыцця. Развітальнае слова сказаў Янка Запруднік.
**Працяг на старонцы 8.**

# ДАСЫЛАЙЦЕ ПРАПАНОВЫ, ЗАДАВАЙЦЕ ПЫТАННІ

**Шаноўнае спадарства!**

**Рада ЗБС "Бацькаўшчына" звяртаецца да вас з просьбай выказваць свае прапановы і пытанні, скіраваныя да розных дзяржаўных органаў і да грамадскасці Беларусі.**

**Кожнае вашае меркаванне – важкі ўнёсак для развіцця стасункаў паміж беларусамі, а таксама для падрыхтоўкі Сёмага з'езду беларусаў свету!**

Спасылка на электронную форму анкеты размешчана на галоўнай старонцы нашага сайта (zbsb.org) і прымацаваная ў якасці галоўнага паведамлення на нашай старонцы ў facebook (facebook.com/zhurtavannie).



## ВІНШАВАННІ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў лютым і сакавіку: Зміцера Гаўрусіка (Беларусь), Леаніда Гаравога (Беларусь), Арсеня Ліса (Беларусь), Мікалая Люцко (Беларусь), Леаніда Лыча (Беларусь), Лідзію Савік (Беларусь), Валянціну Шаўчэнка (Канада), Аркадзя Крупеньку (Расія), Васіля Астаповіча (Украіна), Іну Снарскую (Беларусь).

Жадаем шаноўным імяніннікам добрага здароўя, дабрабыту, творчага натхнення, доўгіх гадоў жыцця і спору ў працы.

**Управа МГА "ЗБС «Бацькаўшчына»"**

навіны

# “ШУША”. ЭСТОНЦЫ ЗНЯЛІ ФІЛЬМ ПРА СТАНІСЛАВА ШУШКЕВІЧА

Першы кіраўнік незалежнай Беларусі Станіслаў Шушкевіч стаў героем дакументальнага фільма эстонскіх журналістаў Айвара Валдрэ і Лаўры Ліпмаа.



“Фільм пра тое, як жыве і пра што думае чалавек, які ініцыяваў падпісанне Белавежскіх пагадненняў, якія скасавалі СССР. Шушкевіч з’яўляецца адным з найвялікшых людзей сучаснай гісторыі, чыя ініцыятыва прывяла да наймацнейшага геапалітычнага зруху ў Еўропе. Аднак сам Шушкевіч найгалоўным лічыць тое, што ён зрабіў Беларусь бяз’ядзернай дзяржавай”, – адзначаецца на сайце эстонскага кінафестывалю.

Станіслаў Шушкевіч і сам не чакаў, што возьме ўдзел у здымках фільма: “Пэўных журналістаў я ў дом не пускаю, прапагандыстаў праганяю. А гэта былі журналісты ад маіх добрых знаёмых у Таліне, мы з імі паладзілі. Я не вельмі добра ўсведамляў, што гэта фільм здымаецца – думаў, проста інтэрв’ю. Паказаў лецішча, рабіў усялякія глупствы. Праз нейкі час тэлефануюць: мы зрабілі фільм, вы не будзеце супраць, калі мы яго назавем “Шуша”? Вы казалі, што ў вас у дзяцінстве была такая мянушка. Я кажу: калі ласка, нічога супраць не маю”.

Шушкевіч пабачыў фільм у канцы мінулага года на кінафестывалі ў Таліне “Цёмныя ночы”. Экс-старшыня Вярхоўнага Савету кажа, што асабліва новага ён у гэтым фільме не распавядае пра сябе.

“Я проста паказаў сваё лецішча, кабінет, камп’ютар... Яны наогул не столькі пыталі ў мяне, колькі здымалі”, — кажа Шушкевіч.

**“Радыё Свабода”**

# МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС ДАСЛЕДЧЫКАЎ БЕЛАРУСІ ЎПЕРШЫНЮ ПРОЙДЗЕ Ў ВАРШАВЕ

Сёмы Міжнародны кангрэс даследчыкаў Беларусі адбудзецца 15–17 верасня ў Варшаве.

Традыцыйна на кангрэсе збярэцца каля 500 навукоўцаў і экспертаў з Беларусі ды іншых краінаў, чакаюцца дыскусіі і прэзентацыі. Акрамя таго, будуць уручаныя прэміі за найлепшыя навуковыя публікацыі па выніках 2015 і 2016 гадоў.

Збор заявак на стварэнне секцыяў і панэляў, а таксама збор намінацыяў на прэмію кангрэсу за найлепшую навуковую публікацыю будуць праходзіць да 10 сакавіка ўключна. Фінальны спіс секцыяў будзе вызначаны да 20 траўня. Папярэдняя праграма кангрэсу стане вядомая да 15 жніўня.

Міжнародны кангрэс даследчыкаў Беларусі быў заснаваны 6 кастрычніка 2010 года ў Каўнасе на сустрэчы прадстаўнікоў беларускай і літоўскай акадэмічных супольнасцяў. Ініцыятарамі выступілі інстытут “Палітычная сфера”, Інстытут Вялікага Княства Літоўскага і Універсітэт Вітаўта Вялікага.

Мэта кангрэсу — развіццё супольнасці навукоўцаў, аналітыкаў і экспертаў, а таксама садзейнічанне больш глыбокаму разуменню Беларусі ў акадэмічнай і грамадскай супольнасці краіны, рэгіёну і свету. Папярэднія кангрэсы праходзілі ў Каўнасе. Асноўным акадэмічным партнёрам з польскага боку выступіць Collegium Civitas.

**БелТА**

## ХВЕДАР НЮНЬКА: “ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ “БЕЛАРУС”

Шаноўныя сябры!

Паведамляем вам пра крушэнне планаў путчыстаў з Таварыства Беларускай Культуры ў Літве. У 2014 годзе іх купка шляхам падману і ашуканства здзейсніла акт захопу ўсёй маёмасці таварыства, атрыманай выключна намаганнямі шматгадовага старшыні ТБК Хведара Нюнькі, які таксама спрычыніўся і да адкрыцця беларускай школы ў Вільні.

Каб дасягнуць сваіх брудных мэтаў, яны імкнуліся яго ачарніць, паказаць, што ён займаўся не рэальнай справай адбудовы беларускасці ў Літве, а асабістай нажывай грошай і фальсіфікацыяй фактаў і дакументаў. У праваахоўныя органы Літвы былі пададзены даносы аб злоўжываннях. Праверылі фінансавую дзейнасць за апошнія пяць гадоў – нічога не знайшлі. Бухгалтарская дакументацыя вялася па законах Літоўскай Рэспублікі. Праверылі блізкіх родзічаў, нават тых, хто жыве па-за межамі Літвы.

Спрабавалі пазбавіць Хв. Нюньку сяброўства ў Прэзідыуме Рады БНР. Рассылалі ілжывую інфармацыю па ўсіх беларускіх адрасах свету, у Літве... Спроба Хведара Нюнькі знайсці супольную мову, каб спыніць цкаванне, вынікаў не дала.

Ад путчу пацярпела беларуская справа. Такі выпадак у Літве адзіны сярод больш як ста розных нацыянальнасцяў, якія пражываюць у краіне. Цяпер адрадзіць беларускасць вельмі цяжка, магчыма, ёсць сілы, якім гэта трэба.

Сёння трэба, каб людзі ведалі сваіх галоўных “герояў”, путчыстаў-аферыстаў, а гэта Аляксандр Адамковіч, Валянцін Стэх, Мікіта Забуга, Валера Савянкоў.

Віленскі Акружны суд сваім Рашэннем ад 7 снежня 2016 года паставіў апошнюю кропку ў судовай справе. Адкінутыя ўсе абвінавачанні ў адносінах да асобы Хведара Нюнькі і ў якасці кампенсацыі Суд прысудзіў выплаціць на яго карысць 3000 еўра.

**Хведар Нюнька, Вільня**

# БЕЛАРУСЬ УВОДЗІЦЬ БЯЗВІЗАВЫ РЭЖЫМ ДЛЯ ГРАМАДЗЯН 80 КРАІН

Аляксандр Лукашэнка 9 студзеня падпісаў указ № 8 “Аб устанаўленні бязвізавага парадку ўезду і выезду замежных грамадзян”.

Дакументам устанаўліваецца бязвізавы парадак уезду ў Беларусь на тэрмін не больш за 5 сутак пры ўездзе праз пункт пропуску “Нацыянальны аэрапорт Мінск” для грамадзян 80 дзяржаў, паведамляе прэс-служба кіраўніка Беларусі.

Гэта Албанія, Аман, Андора, Антыгуа і Барбуда, Аргенціна, Аўстралія, Аўстрыя, Балгарыя, Барбадас, Бахрэйн, Бельгія, Боснія і Герцагавіна, Бразілія, Вануату, Ватыкан, В’етнам, Вялікабрытанія, Гаіці, Гамбія, Гандурас, Ганконг, Германія, Грэцыя, Данія, Садружнасць Дамінікі, ЗША, Індыя, Інданезія, Ірландыя, Ісландыя, Іспанія, Італія, Канада, Карэя, Кіпр, Кітай, Кувейт, Латвія, Ліван, Літва, Ліхтэнштэйн, Люксембург, Макао, Македонія, Малайзія, Мальта, Мальтыйскі Ордэн, Манака, Мексіка, Фэдэратыўныя Штаты Мікранэзіі, Намібія, Нарвегія, Нідэрланды, Нікарагуа, Новая Зеландыя, Панама, Партугалія, Перу, Польшча, Румынія, Сальвадор, Самоа, Сірыя, Сейшэлы, Сэнт-Вінсэнт і Грэнадыны, Сінгапур, Славакія, Славенія, Уругвай, Фінляндыя, Францыя, Харватыя, Чылі, Чэхія, Швейцарыя, Швецыя, Эстонія і Японія.

Пры гэтым для грамадзян Гаіці, В’етнама, Гамбіі, Індыі, Гандураса, Кітая, Намібіі, Лівана і Самоа дадатковым умовай з’яўляецца наяўнасць сапраўднай шматразовай візы дзяржаў ЕС або Шэнгенскай зоны з адзнакай аб уездзе на іх тэрыторыю, а таксама авіябілетаў на вылет з мінскага аэрапорта ў працягу пяці дзён з даты ўезду.

Новыя правілы ахопліваюць таксама такую катэгорыю, як неграмадзяне Латвіі і асобы без грамадзянства Эстоніі.

Дакумент накіраваны на актывізацыю падарожжаў бізнесменаў, турыстаў, прыватных асоб, якія маюць агульнаграмадзянскія пашпарты, і не будзе распаўсюджвацца на замежнікаў, якія ажыццяўляюць службовыя паездкі: дыпламатычныя, службовыя, спецыяльныя і іншыя прыраўнаваныя да іх пашпарты пад увагу прымацца не будуць.

Для ўезду ў бязвізавым рэжыме неабходна мець пры сабе сапраўдны пашпарт ці іншы дакумент для выезду за мяжу, які замяняе яго, грашовыя сродкі (на кожны дзень знаходжання суму ў валюце або ў беларускіх рублях, эквівалентную не менш чым дзвюм базавым велічыням), медыцынскі страхавы поліс на суму не менш за 10 тысяч еўра, які дзейнічае ў Беларусі.

Парадак бязвізавага перамяшчэння не распаўсюджваецца на асоб, якія прыбываюць у Беларусь авіярэйсамі з Расіі, а таксама якія маюць намер ажыццявіць вылет у аэрапорты Расіі (дадзеныя рэйсы з’яўляюцца ўнутранымі, пamежны кантроль на іх не ажыццяўляецца).

**Паводле nn.by**

**гутарка**

# Алесь Чайчыц: "РАСІЯНЕ ВЕЛЬМІ МАЛА ВЕДАЮЦЬ ПРА БЕЛАРУСЬ, ЯНЫ ЁЙ НЕ ЦІКАВЯЦЦА"

Шчыльныя, на мяжы з небяспекай, эканамічныя зносіны, празрыстая дзяржаўная мяжа і панаванне расійскіх сродкаў масавай інфармацыі і рускай мовы сёння ўспрымаюцца як натуральны стан рэчаў. У такіх варунках факт наяўнасці арганізацый беларускай дыяспары ў Маскве можа падацца экзотыкай. Выглядае, што мы ведаем пра Расію не так шмат, як нам самім падаецца. І яшчэ меней ведаем пра тое, якой Беларусь бачаць расіяне. Прапануем да вашай увагі гутарку з сябрам Рады БНР, публіцыстам і кансультантам па міжнародных камунікацыях Алесем Чайчыцам, які нарадзіўся і жыве ў Маскве, і добра абазнаны ў праблемах і перспектывах беларускіх арганізацый сталіцы Расіі.



**– Раскажыце, калі ласка, пра стан арганізацый беларускай дыяспары ў Маскве.**

– Дзейнасць старой арганізацыі цяпер абмяжоўваецца адным-двума мерапрыемствамі на год. Напрыклад, нядаўна ладзілі сустрэчу з Уладзімірам Арловым. Студэнцкія суполкі былі ў 1990-я і 2000-я гады, але цяпер моладзевай самаарганізацыі, падобна, што няма. Больш актыўныя беларускія арганізацыі на сёння – афіцыйныя Рэгіянальная культурна-нацыянальная аўтаномія Масквы і Федэральная культурна-нацыянальная аўтаномія Расіі. Адкрыццё Культурнага цэнтра было выключна важнай падзеяй. Наяўнасць пляцоўкі па факце – гэта моцная матэрыяльная падтрымка, бо памяшканне – парогавая праблема пры арганізацыі мерапрыемстваў у Маскве.

**– Маскоўская аўтаномія мае шмат актыўных сяброў?**

– Цяжка сказаць. Хтосьці сочыць за падзеямі і ставіць лайкі ў сацсетках, а хтосьці ходзіць на ўсе імпрэзы. Што да фармальнага сяброўства, я нават пра сябе, прызнацца, дакладна не ведаю, ці праходжу па нейкіх спісах у якасці сябра аўтаноміі. Зрэшты, заяву на ўступленне ў свой час пісаў.

**– Ці спрыяе Расійская дзяржава?**

– У Маскве ёсць Дом нацыянальнасцяў. Там розныя дыяспары ладзяць мерапрыемствы, часам ладзілі і беларусы. Для гэтага Дом нацыянальнасцяў мае бюджэт і дэклараваныя дзяржавай намеры аб падтрымцы беларускай культуры, але найчасцей падыход бывае фармальны. Увогуле, з асабістай практыкі я пераканаўся, што для арганізацыі беларускіх мерапрыемстваў не трэба шмат грошай. Трэба памяшканне і жаданне, вольны час, энтузіязм, зацікаўленасць. Не шмат каштуе, каб сустрэцца і паспяваць, паглядзець фільм ці пра нешта апавесці. Не цяжка скінуцца грамадой на квіткі, пражыванне і харчаванне для якога-небудзь запрошанага з Беларусі дзеяча...

**– І ўсё ж сустрэчы ладзяцца рэдка. Выходзіць, якраз энтузіязму і няма?**

– У тым і праблема. Няма энтузіязму.

**– Маскоўскі рытм не пакідае часу?**

– Проста Масква недалёка ад Беларусі, і калі хто дужа цікавіцца беларускімі справамі, то яму прасцей не сустракацца з аднадумцамі ў Маскве, а ўзаемадзейнічаць непасрэдна з Беларуссю. Тым больш, што пасля падзеяў 2014 года нацыянальныя справы набылі нязвыклыя сэнсы. Можна лёгка быць абвінавачаным у "нацыяналізме", "русафобстве" ці яшчэ чым-небудзь. У Расіі цяпер спрыяльныя ўмовы для шавіністаў, якія не прызнаюць беларускай дзяржаўнасці, ненавідзяць беларускую мову й культуру.

**– А тэндэнцыя да згасання такіх настрояў ёсць?**

– Яшчэ нядаўна здавалася, што самая актыўная фаза скончылася і ўсталяваўся нейкі кансэнсус, выйшлі на плато. Але цяпер нават не ведаю.

**– Які ўзрост у беларусаў, якія ходзяць на мерапрыемствы, займаюцца справамі суполак? Ці далучаецца да гэтых справаў моладзь?**

– Я моладзі даўно не бачыў на мерапрыемствах. Студэнтам цікава party, гадоў 10–15 таму было шмат мерапрыемстваў у такім фармаце. Дарослыя беларускія актывісты цяпер зрэдчас збіраюцца на прыватныя сустрэчы вузкім колам старых сяброў... Маскоўская аўтаномія беларусаў Масквы апошнім часам больш актыўная. Нядаўняя сустрэча, прысвечаная Мікалаю Улашчыку, мела фармат навуковага круглага стала: праграма, спісы дакладчыкаў, навукоўцы... Сярод іншага ад імя Маскоўскай аўтаноміі вырашылі напісаць у Мінгарвыканкам прапанову назваць адну з Мінскіх вуліц яго імем... Масква – вялікі горад, беларусаў у ім дзясяткі тысяч, часта невядома, хто з іх чым займаецца. Аднойчы выпадкова даведаліся, што ў Маскве была беларускамоўная тэатральная трупа, людзі некалькі гадоў рабілі пастаноўкі на беларускай мове. А неяк раз выпадкова высветлілася, што начальнік дэпартамента культуры ў прэфектуры адной з акругаў Масквы – шчыры беларус, і ў рамках праграмы культурніцкіх мерапрыемстваў прэфектуры ён з уласнай ініцыятывы штогод ладзіў у адным з паркаў беларускае Купалле, з запрошанымі артыстамі, продажам сувеніраў... Я пастараўся звесці яго з арганізаванай дыяспарай, і ў мінулым годзе, здаецца, пачаліся нейкія зрухі. Такі фармат і моладзь прыцягне. Як дадаць адміністрацыйнага рэсурсу да шчырай прыватнай ініцыятывы, то і маштаб можа быць выбуховым. Гэта істотна зможа паспрыяць папулярызацыі беларускай культуры і Беларусі, падорыць людзям з беларускімі каранямі адчуванне далучанасці да нашай краіны, а Беларусі – дадатковы фактар уплыву ў стасунках з Расіяй.

**– А як даўно вы ў Маскве? Як там апынуліся?**

– Я там нарадзіўся. Мой бацька з Беларусі, адзін з першых удзельнікаў Таварыства беларускай культуры, актыўны дзеяч дыяспары. Ён вельмі дбаў пра тое, каб максімальна беларусізаваць сямейную атмасферу. На пачатку 1990-х я хадзіў у беларускую школку. Пасля распаду СССР бацька вярнуўся ў Беларусь і нейкі час працаваў у Міністэрстве замежных справаў, такім чынам, некалькі гадоў мне давялося пажыць у статусе прадстаўніка Беларусі за мяжой. Гэта наклала адбітак – асацыяванне сябе з Беларуссю, пачуццё адказнасці, абавязанасці перад Беларуссю... Пару гадоў у Мінску я хадзіў у беларускую школу. Беларускую мову з літаратурай тады ненавідзеў...

**– Тыпова для біяграфіі гарадскога жыхара, ангажаванага ў беларушчыну.**

– А пасля моцна ўсім гэтым зацікавіўся, мабілізаваўся, з дапамогай інтэрнэту набыў практыку камунікацыі па-беларуску. Пачаў гаварыць з бацькам па-беларуску. Пачаў сустракацца з маскоўскімі беларусамі...

**– Вось жа аказваецца, што ў Маскве на пачатку 1990-х існавалі беларускія школы. А як з гэтым цяпер?**

– Усяго адна была. Мы гэта называлі "школка", але насамрэч гэта былі дзіцячыя курсы, арганізаваныя Таварыствам беларускай культуры. Цяпер такога няма. Варта паўплываць на аўтаномію і амбасаду, бо дзецям гэта трэба. Маім, напрыклад.

**– А ці назбіраецца па Маскве ахвотных на групу?**

– Залежыць ад фармату. Калі заняткі будуць цікавыя і пазітыўныя, то попыт будзе. Украінцы, латышы, палякі ў Маскве гэта маюць. Спадзяюся, і ў нас з'явіцца.

**– Як з Масквы выглядае цяперашняя сітуацыя з беларускай культурай у Беларусі? Даводзіцца чуць меркаванні пра зварот афіцыйных уладаў да нацыянальнага, ад якога яны ў свой час, у 1990-я, дыстанцыяваліся.**

– Адчуванне ёсць, але не павароту ўладаў да беларушчыны, а жыццяздольнасці беларушчыны ў неспрыяльных умовах. Чыстыя крамы з беларускамоўнымі шыльдамі, беларускамоўная рэклама. Кавалачак якога-ніякога, але "сярэднявечнага" горада ў цэнтры. Беларусь стварае еўрапейскае адчуванне. Грамадства эвалюцыянавала ў бок нацыянальных каштоўнасцяў – і ўлада разам з ім. На пасады прыходзяць чыноўнікі, якія большую частку жыцця прабавілі ў незалежнай Беларусі, памятаюць дзяржаўныя Пагоню і сцяг, нармальна да іх ставяцца.

**– А як наогул сярэднестатыстычны расіянін бачыць Беларусь? У нас тут дамінуе расійскае тэлебачанне, кнігі расійскіх выдавецтваў, замежная літаратура ў перакладзе на рускую мову. Часам здаецца, што мы, беларусы, ведаем пра Расію ўсё. І не адразу прыходзіць да галавы, што па той бок празрыстай дзяржаўнай мяжы пра нас, відаць, ведаюць менш.**

– Расіяне вельмі мала ведаюць пра Беларусь. Беларусь не ў фокусе іхнай увагі, яны ёй не цікавяцца. Ведаюць, што гэта "прыкладна тое ж, што Расія". "Лукашэнка, трактары, бульба". Украіна нашмат бліжэйшая да іх. Па-першае, праз большую колькасць насельніцтва расійскае грамадства мае з ёй больш чыста асабістых сувязяў. Ну а па-другое... Пры патрэбе можна выбраць рускую Украіну на любы густ. Ёсць гогалеўская Украіна, ёсць Заходняя, "бандэраўская" Украіна, ёсць Кіеў, маці гарадоў рускіх, ёсць "Белая гвардыя" Булгакава. Рускія пісьменнікі жылі ў Кіеве, Харкаве. А згадайце Адэсу! А Крым! Што да Беларусі – ну героі брэсцкай крэпасці, партызаны ў вайну. Пануе ўяўленне, што беларусы "заўжды былі пад палякамі". Некаторыя лічаць, што тут усе каталікі. Пра Беларусь у Расіі ведаюць не больш, чым пра якуюсь Славенію. У святле апошніх падзеяў ды тэндэнцый, такое знаходжанне па-за фокусам для Беларусі можа і добра.

*Гутарыў Сяргей Кандраценка, прэс-сакратар ЗБС "Бацькаўшчына"*

навіны

# ЗАГАДКІ, ЯКІЯ МОЖНА РАЗГАДАЦЬ

У Вільнюсе даследчыкі дзяліліся цікавымі фактамі ды здагадкамі пра віленскі перыяд дзейнасці Францыска Скарыны.



Пры канцы 2016 года ў Вільнюсе адбыліся Скарынаўскія чытанні на тэму “Кніжная традыцыя Вялікага Княства Літоўскага”.

Міжнароднае свята, фармальна прысвечанае 525-годдзю заснавання першай друкарні на беларуска-літоўскіх землях, у Вільні, а фактычна, па большасці ўдзельнікаў і дакладаў, звязанае 500-годдзем беларускага кнігадрукавання, пачалося з супольнага ўскладання кветак ля мемарыяльнай дошкі на доме 34-м па вуліцы Дзіджойі. Затым удзельнікі чытанняў накіраваліся ў бібліятэку ўніверсітэта, дзе на свае вочы пабачылі і нават пагарталі адно з выданняў Скарыны. Увечары таго самага дня адбылася імша памяці Францыска Скарыны ў касцёле Святога апостала Барталамея.

Дзень навуковых пасяджэнняў прайшоў у “Клубе пісьменнікаў”. Распачаўся ён з музычнага прывітання і ўступных словаў прадстаўнікоў арганізатараў “Скарынаўскіх чытанняў”: амбасады Беларусі ў Літве, Вільнюскага гарадскога самакіравання і асноўнага арганізатара – Беларускага клуба “Сябрына”.

Даклад “Русінская Біблія” і яе сучаснікі – найбольш раннія выданні Літвы” ў навуковым блоку чытанняў зрабіў доктар гуманітарных навук, дацэнт Сігітас Нарбутас (Вільнюс). Слова “русіны” ён ужываў як вызначэнне для продкаў сённяшніх беларусаў і ўкраінцаў. Такое вызначэнне ўжываў для сябе падчас экзаменаў у Падуанскім універсітэце і сам Скарына.

Затым эстафету пераняў доктар філалагічных навук, прафесар Адам Мальдзіс. Мінчанін разгледзеў некалькі сваіх версій адносна віленскага перыяду жыцця і дзейнасці Скарыны. Чым ён займаўся на працягу не менш як чатырох гадоў падчас службы ў віленскага біскупа Яна, гарачага патрыёта ВКЛ? Дакладчык прывёў важкія аргументы, што менавіта Скарына, які добра ведаў “правы боскія і правы чалавечыя”, і быў асноўным аўтарам Першага Статута ВКЛ 1529 года, які яшчэ называюць Першай еўрапейскай канстытуцыяй. Бо іншай настолькі адукаванай і кваліфікаванай у юрыспрудэнцыі асобы, як Скарына, у тагачасным ВКЛ проста не было. А другога друкара Скарына патаемна вывез з Каралявца ў 1530-м, відаць, якраз для выдання Першага Статута, толькі тое не ўдалося зрабіць з-за пераследу з боку прускага герцага, і ў выніку Статут на стагоддзі застаўся ў рукапісе…

Пасяджэнне Скарынаўскіх чытанняў у Вільнюсе завяршыў даклад маскоўскага навукоўца Рамана Лізагубава “Кнігі кірылічнага друку XVI–XVIII стагоддзяў ВКЛ на антыкварна-букіністычным рынку Расіі”. Дакладчык засведчыў: віленскія выданні Мамонічаў ды іх паслядоўнікаў былі папулярнымі ў Маскве і гарадах Паволжа.

Даклады навукоўцаў з Вільнюса і Каўнаса, Полацка і Прагі ўвойдуць у выданне, якое рыхтуецца Беларускім клубам “Сябрына”.

Мікалай Люцко, “Голас Радзімы”

навіны “Будзьма беларусамі!”

## Акцыя ў Лідзе

**19 студзеня** прадстаўнікі грамадскай культурніцкай кампаніі **“Будзьма беларусамі!”** і **Саюза беларускіх пісьменнікаў** завіталі **ў Ліду**, дзе наведалі дзіцячыя садкі з беларускай мовай навучання. Адміністрацыі ўстаноў адукацыі **“Яслі-сад №24”** і **“Яслі-сад №35”** было перададзена болей за 40 дзіцячых кніг і набораў паштовак 11 найменняў, у тым ліку паштоўкі і календары з серыі “Не маўчы па-беларуску!”. Усе дзеткі засталіся задаволеныя такімі падарункамі са сталіцы.

## Аксамітны Мятлік у годзе Скарыны

**13 студзеня ў сталічнай бібліятэцы імя Цёткі паэтычны тэатр “ART.-S”** у працяг свайго 12-гадовага праекта “Святкуйма беларускае!” абвясціў беларускі 2017 год годам Аксамітнага Мятліка. Аўтары ідэі, сцэнарысты і вядоўцы – сямейнае трыа Альжбеты, Аксаны і Яраша Малішэўскіх-Спрынчан. Вядоўцы расказвалі пра розных мятлікаў, што вядуцца на Беларусі, і прадстаўлялі выступоўцаў у іх вобразах. Кожны чытаў вершы, спяваў песні, апавядаў легенды. Рэгіна Багамолава нагадала гасцям, што сёлета будзе адзначацца 500-годдзе беларускага кнігадруку і 140-годдзе Цёткі. Завяршылася вечарына традыцыйнымі калектыўнымі здымкамі на ўспамін фотамастакоў Васіля Кузьмічкіна і Міколы Лінніка.

Паводле budzma.by



“Будзьма беларусамі!” і Саюз беларускіх пісьменнікаў правялі акцыю для беларускамоўных дзяцей у Лідзе.

навіны “Пяцісотгоднасці”

## Казка ў Гародні

**13 студзеня ў межах кампаніі “Будзьма беларусамі!” і акцыі “500-годнасць” гурт “Vuraj” і Тэатральны праект Андрэя Саўчанкі** выступілі ў **Гродна** са спектаклем “Казкі пра Казу і Пятра” для дзетак з асаблівасцямі з хоспіса. Запаліўшы свечкі, каб стварыць адпаведную атмасферу, Пятро запрасіў дзетак разам скласці Калядную Зорку, загучалі гукі Колавай ліры і Казка пачалася. Было сапраўднае адчуванне святочнага вечара, Шчодрыка і Старога Новага года. Свята адбылося пры дапамозе Гарадзенскага дзіцячага хоспіса. Падчас конкурсаў на тэму святкавання 500-годдзя беларускага кнігадрукавання музыкі гурта “Vuraj” уручылі пераможцам падарункі ад кампаніі “Будзьма беларусамі!” – паштоўкі, плакаты “500-годнасць”.

## “Пяцісотгоднасць” на Берасцейшчыне

**19 студзеня** ў межах грамадскай культурніцкай кампаніі **“Будзьма беларусамі!” ў Брэсцкім абласным ліцэі і ў школе №18 г. Брэста** адбыліся творчыя сустрэчы з паэткай **Валянцінай Осіпавай** і паэтам і перакладчыкам **Яўгенам Бяласіным**. Імпрэзы былі прысвечаны пяцісотгоддзю беларускага кнігадруку. Берасцейскія паэты пазнаёмілі слухачоў з уласнай творчасцю, правялі літаратурную віктарыну. Школьнікі і ліцэісты з цікавасцю слухалі аб літаратурным працэсе ў Беларусі, аб дзейнасці грамадскай культурніцкай кампаніі “Будзьма беларусамі!” і акцыі **“Пяцісотгоднасць”**, якая зараз праходзіць у краіне. Як паказаў жывы дыялог з аўдыторыяй, слухачоў вельмі зацікавілі тэмы, узнятыя падчас творчай сустрэчы. Паэтам задавалі шмат цікавых пытанняў на разнастайныя тэмы, што сведчыла аб высокім інтэлектуальным узроўні навучэнцаў. Ад кампаніі “Будзьма беларусамі!” Валянціна Осіпава ўручыла традыцыйныя падарункі школьнай бібліятэцы і бібліятэцы ліцэя: кнігі беларускіх пісьменнікаў і часопісы “Дзеяслоў”. Найбольш актыўныя ўдзельнікі атрымалі на памяць аб паэтычнай імпрэзе закладкі і прыгожыя паштоўкі на роднай мове.

## Віталь Рыжкоў у Віцебску

**26 студзеня** ў межах кампаніі **“Будзьма беларусамі!”** у абноўленым **арт-пабе “Торвальд”** перад віцебскай публікай выступіў з уласнай творчасцю літаратар **Віталь Рыжкоў**. Гэтым разам выступ адбываўся пад жывы акампанемент віцебскіх музыкаў з гурта **Chaotic Orchestra**. Вечар быў прысвечаны тэме юбілею беларускага кнігадруку – кампаніі **“Пяцісотгоднасць”**.

Паводле budzma.by

гутарка

# Зянон Пазьняк: “ВЯРНУСЯ І ЎСІХ ВАС ВЫРАТУЮ – РЫХТУЙЦЕ ГАРЭЛКУ”

Нам прыйшлося старанна “фільтраваць базар” – і свой, і спадара Зянона, – каб пасля выхаду інтэрв'ю можна было спаць спакойна.

**– Як Вы сочыце за жыццём Беларусі? Якія СМІ чытаеце?**

– Я вымушаны жыць у ЗША і ў Еўропе (Польшча). Інфармацыю пра Беларусь маю ад структураў палітычнай арганізацыі з усёй Беларусі; ад кантактаў з людзьмі з Беларусі; ад сваіх карэспандэнтаў; ад кантактаў з палітыкамі і рознымі асобамі; з сродкаў масавай інфармацыі (часткова, бо інфармацыя ў СМІ як правіла недакладная, выбарачная і тэндэнцыйная).

**– Што, на Ваш погляд, кардынальна змянілася ў краіне? Чым Беларусь пачатку 90-х адрозніваецца ад Беларусі нашага часу?**

– Змянілася шмат што. Гэта змены ўпадку. Калі “кардынальна”, то змяніўся дух грамадства. Гэтае грамадства без крылаў.

**– Спадар Зянон, якой была б Беларусь, калі б у 1994 годзе прэзідэнтам сталі Вы?**

– Людзі ўсюды ўсміхаліся б адзін да аднаго і радаваліся б прысутнасці.

**– Вас яшчэ памятаюць у Беларусі?**

– Мяне ведаюць не толькі ў Беларусі.

**– Павал Шарамет назваў Вас “адваротным бокам Лукашэнкі”. А што Вы думаеце пра Паўла Шарамета?**

– Зямля яму пухам. Ягоная фармулёўка – гэта прапагандысцкае клішэ, дзеля дэфармацыі вобраза, прыдуманае на Лубянцы, якое паўтараў не толькі адзін Шарамет. На жаль, ён позна пачаў разумець сутнасць рэчаў, за што тут жа і паплаціўся.

**– Як Вы лічаце, якой бачыць будучыню нашай краіны просты чалавек? Якой ён бачыць Беларусь?**

– Наш просты чалавек думае пра простыя рэчы і чакае, што яму нехта іх забяспечыць. Праўда такая, што сваёй будучыні звычайна не мае той, хто пра яе не думае. Але і думаць мала. Трэба ствараць. Запатрабаваныя стваральнікі. Калі яны будуць, тады зменяцца думкі “простага чалавека”.

**– Чаму сярод беларусаў так мала змагароў? Чаму мы такая рахманая нацыя?**

– Беларусы – гістарычна змагарны народ. Тое, што цяпер “мала змагароў” (але яны ёсць), – гэта вынік перманентнага фізічнага вынішчэння актыўнай верхавіны нацыі акупацыйнымі і антынароднымі рэжымамі. Рэмісія і адраджэнне звязаныя з выспяваннем пакаленняў і з'яўляюцца важным, але адносным чыннікам. Негатыўны адбор з'яўляецца абсалютным. У гэтым найбольшая небяспека антынародных акупацыйных рэжымаў.

**– Як можна аб'яднаць беларусаў? Мы ўсё роўна падзелены на “ўсходнікаў” і “заходнікаў”.**

– Рэальны падзел на “ўсходніх” і “заходніх” ёсць ва Украіне і абумоўлены гістарычна больш чым двухсотгадовым існаваннем заходніх украінцаў пад Габсбургамі і 18-гадовым – пад палякамі. У 1918–1919 гг. на гэтых землях была ўтворана і існавала незалежная Заходне-Украінская Народная Рэспубліка (якая да таго ж ваявала з Польшчай і Румыніяй). У Беларусі такога падзелу няма. Быў розны сацыяльны досвед, бо беларусы заходніх вобласцяў валодалі прыватнай уласнасцю і часткова пазбеглі бальшавіцка-маскоўскага галадамору, калектывізацыі 1930-х гадоў і генацыду.



Грамадства цяпер палітычна падзеленае. Але яго падзяліла расейскае тэлебачанне. Тут не настолькі светапоглядны, колькі эмацыйна-ірацыянальны падзел (тым ён і шкодны, бо чалавек замбаваны, яго рэакцыя па-за межамі рацыё). Таму першае, што абавязкова цяпер трэба зрабіць, – гэта заткнуць пашчу электроннага бандыта. Гэта пытанне надзвычайнай важнасці. Наступнае – нацыянальнае беларускае тэлевяшчанне.

**– Чаму ўсходняя і заходняя цывілізацыі не ўжываюцца мірна, без вайны?**

– Цяпер пра цывілізацыйны канфлікт кажуць у сувязі з агрэсіяй ісламскіх радыкалаў супраць Заходняга свету. Прычына канфлікту ў дактрыне глабалізацыі і ў сістэмным лева-ліберальным крызісе заходняй дэмакратыі. Прытым правакацыйным чыннікам канфлікту выступае якраз лева-ліберальны Захад праз навязванне Усходу сваіх антыкаштоўнасцяў, якіх Усход ніколі не прыме. Эканамічная аснова канфлікту цягнецца яшчэ з часоў каланіялізму. У так званай “цывілізацыйнай вайне” Расея выступае на баку Усходу. Этнічна расейцы ёсць угра-фіны, якія карыстаюцца мадыфікаванай старабалгарскай (рускай) мовай. Гэта значыць, што этнічна і расава (лапланоіды) яны ёсць еўрапейцы (хоць і не славяне), але ментальна – гэта Усход. Так склалася даўно, калі Масковія была часткай Мангольскай імперыі, але гістарычна выжыла да сённяшняга дня. Ментальны чыннік уплывае на характар паводзінаў. Як археолаг і гісторык мастацтва (доктар навук) заўважу, што гэты этнагенез расейцаў быў навукова распрацаваны яшчэ ў 70-х гадах XX стагоддзя (працы В. Сядова). У XXI стагоддзі генетычныя даследаванні пацвердзілі высновы археалогіі, антрапалогіі, этнаграфіі, лінгвістыкі і іншых навук XX стагоддзя датычна да этнагенезу расейцаў. На сённяшні дзень міфалагічная легенда імперскай гісторыі загадала доўга жыць. Дастаткова было аднаго, што расейцы не ёсць славяне і ўсе казкі пра “трыадзіны рускі славянскі народ”, “старэйшага брата” (а ён увогуле не брат) ды “старажытнарускую дзяржаву” ператварыліся ў пусты хлам. Якраз цяпер Расея мэтанакіравана пачала падрыхтоўчую фазу гібрыднага захопу Беларусі ў прапагандзе і дэзінфармацыі. Усё беларускае расейская прапаганда вульгарна ў хамскім стылі стала абзываць “нацыянал-фашызмам”. Тым часам было абвешчана, што Мураўёў-Вешальнік Людаед – гэта “расейскі нацыянальны лідар”, які “расстраляўшы восем каталіцкіх ксяндзоў, здзейсніў асабісты духоўны подзвіг” і г. д. Неўзабаве беларусы таксама пачуюць, што іх і іхнюю мову прыдумала Аўстра-Венгрыя, дзяржаву стварылі “жыда-масоны”, а беларускай нацыі і беларускай мовы “ваабшчэ не сушчэствует”. Прытым 96 адсоткаў тэлевізійных гледачоў будуць у гэта асцервянела верыць з пенай у роце. Таму я і кажу пра нацыянальнае беларускае тэлебачанне.

**– Якая галоўная пагроза сучаснага свету? Ісламізм? Геі? Трамп?**

– Імперыя з рэліктавай агрэсіўнай ментальнасцю і ядзерным арсеналам.

**– Вы пражылі ў Амерыцы шмат часу. Чым яна прынцыпова адрозніваецца ад Беларусі? Чаму беларусам можна павучыцца ў Амерыкі?**

– Амерыка – краіна эмігрантаў. Эмігранты ёсць асноўны найбольш танны і найбольш выдайны рэсурс і сродак вытворчасці, аснова багацця Амерыкі. Амерыканцы падпарадкоўваюцца законам, якія дзейнічаюць, дзякуючы збалансаванаму падзелу ўладаў. Беларусь – унітарная монакультурная краіна. На сённяшні дзень параўнанне з Амерыкай не можа быць карэктным, таму што сапраўднае аблічча Беларусі схаванае. У маральна-гуманітарным сэнсе, у чалавечым развіцці, кемлівасці і пазнанні беларусы вышэйшыя за амерыканцаў. Амерыканцам у гэтым сэнсе шмат чаму можна было б павучыцца ў беларусаў, калі б яны не былі так задаволеныя сабой. Што датычыць беларусаў, то галоўнае, чаму добра, каб яны навучыліся ў амерыканцаў, – гэта цаніць свабоду і гонар краіны. Добра было б таксама пераняць культуру грамадскага абыходжання амерыканцаў (адсутнасць грубасці і хамства).

**– За каго Вы былі: за Хілары ці за Трампа?**

– За амерыканскі выбар.

**– Як абранне Трампа зменіць жыццё Беларусі?**

– Ніяк не зменіць. Можа толькі паспрыяць пераменам.

**– У чым галоўныя недахопы амерыканскага ладу жыцця?**

– У адсутнасці вольнага часу; у аднабаковым пазнанні і развіцці асобы; у абсурдным існаванні абсурдных законаў (якіх процьма); у манаполіі адвакатаў; у абсурднай паліткарэктнасці і падпарадкаванні грамадства маргінальным мяншыням; у накіраванасці працы на эксплуатацыю мазгоў і рабочай сілы (акрамя дзяржаўных служачых, практычна ніхто не працуе менш за 12 гадзін у дзень, а то і больш, і без выхадных); у масе сацыяльных паразітаў, якія жывуць за кошт бюджэту. Дадам, што ў амерыканскага ладу жыцця ёсць нашмат больш станоўчых якасцяў, якіх няма ў Еўропе. А што датычыць эканамічнай, фінансавай і гандлёвай сферы, то тут усё вышэйшае на цэлы парадак.

**– Якія галоўныя кнігі, на Ваш погляд, павінен прачытаць кожны беларус?**

– Біблію і Евангелле Госпада нашага Ісуса Хрыста.

**– Наколькі цяжкім для Вас было рашэнне не прыязджаць у Беларусь на пахаванне маці?**

– Вельмі цяжкім, бо немагчыма было перайсці праз лінію фронту.

**– Ці плануеце Вы вярнуцца?**

– Вярнуся і ўсіх вас выратую – рыхтуйце гарэлку.

Сяргей Зубелінскі, “Большой”

навіны

# НЕ ЗАБЫВАЮЦЬ РОДНЫ КУТ




На святочнай вечарыне, якая прайшла ў Амбасадзе Беларусі ў Бішкеку, сабраліся актывісты беларускіх суполак "Світанак", "Крыніца" і аб'яднання "Выпускнікі беларускіх ВНУ ў Кыргызстане".

Амбасадар Віктар Дзенісенка павіншаваў супляменнікаў з Новым годам і Калядамі, звярнуў увагу на тое, як спрацавалі суполкі дыяспары летась, акрэсліў задачы на перспектыву. З віншаваннямі выступілі кіраўнікі "Світанка" і "Крыніцы" Аляксандр Шут ды Ніна Міронава. Расказала пра дзейнасць і планы на новы год старшыня суполкі "Выпускнікі беларускіх ВНУ ў Кыргызстане" Тамара Джумашава.

Творчым падарункам для ўсіх, хто сабраўся на вечарыне, стала выступленне папулярнай эстраднай спявачкі Кыргызстана Юліі Руцкай. Яна – сябар "Світанку" і Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве замежных спраў Беларусі, кавалер медаля Францыска Скарыны. Сустрэча прайшла ў цёплай сяброўскай атмасферы. Гучалі беларускія песні, дэманстраваліся відэафільмы пра родную Беларусь.

А ў Амбасадзе Беларусі распавялі: нядаўна спявачцы Юліі Руцкай нададзенае ганаровае званне "Заслужаны артыст Кыргызскай Рэспублікі". Адпаведны ўказ Прэзідэнт Алмазбек Атамбаеў падпісаў 31 снежня 2016 года. Супляменніца адзначана за асаблівы ўнёсак у захаванне і развіццё гістарычнай і культурнай спадчыны кыргызскага народа, падрыхтоўку, арганізацыю і правядзенне Сусветных гульняў качэўнікаў, мерапрыемстваў, прысвечаных 100-годдзю нацыянальна-вызваленчага паўстання і трагічных падзей 1916 года, а таксама за вялікія дасягненні ў прафесійнай дзейнасці па выніках Года гісторыі ды культуры.

Віншуем Юлію з высокім званнем! Жадаем далейшых творчых поспехаў ды шырокай гастрольнай геаграфіі. Хацелася б, каб у спісе яе "гастрольных краін" Беларусь заўсёды займала першыя пазіцыі.

Нагадаем: нарадзілася Юлія ў Віцебску. Бацьку, Сяргея Барысавіча, перавялі працаваць у Кыргызстан, калі дзяўчынцы было пяць год. І ўдалечыні ад Бацькаўшчыны сям'я Руцкіх засталася жыць надоўга. Сяргей Руцкі быў намеснікам міністра, затым міністрам лёгкай прамысловасці, а пасля – Амбасадарам Беларусі ў Бішкеку. Маці, Святлана Іванаўна, выкладае ў музычнай школе па класе фартэпіяна.

Юлія Руцкая прадстаўляе Кыргызстан на міжнародным узроўні, яна – дыпламант шматлікіх вакальных конкурсаў краін СНД і Балтыі. Спявачка вядомая за межамі сваёй другой радзімы, а ў Беларусі яе лічаць сваёй і запрашаюць на канцэрты. У яе рэпертуары ёсць і беларускія песні, а "Мой родны кут" (музыка Ігара Лучанка на словы Якуба Коласа) Юлія выконвае на кожным са сваіх сольных канцэртаў.

**Карына Міронава, "Голас Радзімы"**

# СВАЯКІ ТРАМПА ПАБУДУЮЦЬ МЕМАРЫЯЛ У БЫЛЫМ ГАБРЭЙСКІМ ГЕТА Ў НАВАГРАДКУ

Сват Дональда Трампа Чарльз Кушнер, які мае беларускія карані, прафінансуе будаўніцтва мемарыяльнай сцяны на тэрыторыі Музея габрэйскага супраціву ў Навагрудку.

Пра гэта распавяла стваральніца і экс-дырэктарка музея Тамара Вяршыцкая. Праект мемарыяльнага комплексу "Тунэль" пачаў рэалізоўвацца яшчэ восенню 2013 года. Трампавы сват і сваццця – Чарльз і Сірыл Кушнеры абяцаюць прафінансаваць будаўніцтва сцяны, прысвечанай памяці 250 габрэяў, якія ўцяклі праз тунэль з гета. Трацiна з іх выжыла, астатнія загінулі ў тым тунэлі.

"Фонд Кушнераў выдзяляе да 60 тысяч даляраў на праект, – кажа Вяршыцкая. – Сцяна будзе пабудаваная паводле ідэі таленавітага маладога скульптара Георгія Заборскага з вядомай дынастыі скульптараў". Будаўнічыя працы маюць распачацца ўжо вясной, як толькі сыдзе снег. А ўрачыстае адкрыццё чакаецца не пазней за наступную зіму. Плануецца, што на адкрыццё прыедзе сям'я Кушнераў у поўным складзе.



Памятны знак на адным з месцаў расстрэлу габрэяў з Навагрудскага гета

**КА, "Радыё Свабода"**

# РАШЭННІ АГУЛЬНАГА СХОДУ АСАЦЫЯЦЫІ БЕЛАРУСАЎ У ШВЕЙЦАРЫІ

14 студзеня ў Берне адбыўся Агульны сход Асацыяцыі беларусаў у Швейцарыі.

Была прадстаўлена справаздача аб дзейнасці арганізацыі за мінулы год, прынятыя новыя сябры, прадстаўлены вынікі аўдыту, зацверджаны бюджэт і план мерапрыемстваў на 2017 года, а таксама ўнесеныя змены ў Статут арганізацыі. У выніку галасавання была змененая назва арганізацыі і зацверджаныя наступныя яе варыянты:

- Belarussische Vereinigung in der Schweiz;
- Беларускае аб'яднанне ў Швейцарыі;
- Белорусское объединение в Швейцарии;
- Belarusian Association in Switzerland.

Прысутныя аднагалосна прагаласавалі за зацвярджэнне наступнага складу Праўлення: Алесь Сапега, Сяргей Сіроткін, Алесь Вашкевіч і Вольга Крук. Прэзідэнтам быў абраны Сяргей Сіроткін, які змяніў на гэтай пасадзе Алеся Сапегу.

Паседжанне завяршылася святкаваннем Старога Новага года ў цёплай кампаніі.

**Вольга Крук, "Беларускае аб'яднанне ў Швейцарыі"**



# У БЕЛЬСКУ ПРАЙШОЎ КОНКУРС ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

II Агульнаадукацыйны ліцэй сабраў 39 вучняў пачатковых школ з розных куткоў Беласточчыны, якія ўзялі ўдзел у раённым адборы Ваяводскага прадметнага конкурсу па беларускай мове.

Удзельнікі мусілі выканаць 11 заданняў, між іншага, інтэрпрэтаваць вершы паэтаў-белавежцаў, запоўніць тэст ведаў на тэму беларускіх арганізацый і дзеячоў ды выканаць практыкаванні па граматыцы.

Кажа мінулагодні лаўрэат конкурсу Мікалай Здрайкоўскі з Пачатковай школы №4 Беластока: "Было практыкаванне, дзе трэба напісаць больш кароткую форму тэксту. Для мяне гэта было даволі складана. Прасцей было падпісаць віды казак. Такія конкурсы патрэбныя, бо ўзбагачаюць веды".

Галоўным арганізатарам Ваяводскага прадметнага конкурсу па беларускай мове выступіў Куратарыум асветы ў Беластоку.

**Мацей Рацінеўскі, "Беларускае Радыё Рацыя"**

навіны

# КАЛЯДНАЕ СВЯТА Ў МАЛДОВЕ

Новае Сонца і Нараджэнне Божага Сына суайчыннікі, што жывуць на малдаўскай зямлі, сустрэлі згодна з беларускімі звычаямі.

25 снежня пад дахам нядаўна адкрытага Беларускага культурнага цэнтра ў Малдове, прадстаўнікі нашай дыяспары на запрашэнне мецэнаткі Ганны Бабін зладзілі сумесныя Каляды. Сілы згуртавалі чатыры грамадскія аб'яднанні: Беларускі культурны рух Малдовы, Таварыства дружбы і супрацоўніцтва "Малдова–Беларусь", Беларуская грамада ў Рэспубліцы Малдова і Асацыяцыя беларусаў муніцыпія Кішынёў "Беларусь". Падтрымку аказалі Амбасада Рэспублікі Беларусь і СП "Керамін Груп" – дапамаглі накрыць смачны салодкі стол і набыць навагоднія падарункі для маленькіх беларусаў Малдовы.



Этнічны тэатр "Куфар", што дзейнічае пры Беларускім культурным руху Малдовы, паказаў святочны спектакль "Каляднае свята" на беларускай і малдаўскай мовах.

Выдатныя творчыя таленты прадэманстравалі маленькія беларусы. Вядомы мастак Вячаслаў Ігнаценка, які праводзіць заняткі ў нядаўна адчыненай студыі выяўленчага мастацтва пры Беларускім культурным цэнтры, са сваімі выхаванцамі, юнымі мастакамі ва ўзросце ад 4 да 12 гадоў, арганізаваў "Зімовы вернісаж", прымеркаваны да Калядаў.

"Каляднае свята" заўсёды збірае вялікую колькасць сяброў. Прыйшло шмат гасцей з Пасольства Рэспублікі Беларусь, суайчыннікаў з многіх беларускіх грамадскіх аб'яднанняў у Малдове, шматлікія сябры з польскай, рускай і ўкраінскай дыяспар. Па традыцыі "Каляднага свята" ўсе дзеткі атрымалі смачныя навагоднія падарункі, шмат добрых эмоцый і выдатны калядны настрой!

**Ганна Мазур, Старшыня Праўлення Беларускага культурнага руху Малдовы**

# СВЯТА "ШЧАДРЭЦ" У БЕЛАРУСКАЙ ГРАМАДЗЕ МАЛДОВЫ

15 студзеня Беларуская грамада ў Рэспубліцы Малдова адзначыла беларускае народнае свята "Шчадрэц" у адным з рэстаранаў Кішынёва.

Сабралася больш за 60 сябраў. Сярод запрошаных гасцей былі старшы саветнік Амбасады Рэспублікі Беларусь у Малдове А.С. Істомін з жонкай і старшыня Беларускага культурнага цэнтра А.Я. Бабіна.

Пасля абмену вітаннямі, віншаваннямі і тостамі прысутныя слухалі беларускія спевы ў выкананні вакальнага ансамбля суполкі "Зоранькі", а таксама вучыліся танчыць народныя танцы "Свіння ў рэпу" і "Ой-ра".

**Юрый Статкевіч**

# У БЕЛАСТОКУ ПРАЙШОЎ АГЛЯД КАЛЯДНАЙ ПЕСНІ

Дваццаць восем калектываў з усяго Падляшша сустрэліся на супольным калядаванні. Васямнаццаты раз у Беластоку прайшло мерапрыемства "Гвязда і Калядка".

На сцэне прэзентаваліся калядніки ад дашкольнага ўзросту да самых пажылых выканаўцаў. Мерапрыемства спалучае пакаленні ў адной прыгожай традыцыі.

Наведнікі і ўдзельнікі вельмі цёпла адзываліся аб мерапрыемстве:

"Беластоцкі агляд калядак – гэта свята на ўсё Падляшша, бо тут збіраюцца ўсе нашы групы, калядныя хоры, вяселяць публіку, тэлебачанне, і ўсё калядкамі. Дзякуй Богу, гэта цешыць душу, што яшчэ такое ў нас ёсць, бо на Захадзе гэтага ўжо няма, а шкада".

"Калі чалавек выйдзе і паспявае беларускі песні, дык сэрцам інакш пачуваецца ўвесь тыдзень. А калі мы можам сустракацца з іншымі калектывамі на розных мерапрыемствах, тады яшчэ лепш".

Віцэ-старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства Васіль Сегень: "І нам вельмі прыемна, што мы гэтым аглядам можам працягнуць яшчэ святочны час, разам спяваць гэтыя калядныя песні, каб на душы ў нас было вельмі радасна, весела з нагоды Нараджэння Госпадняга".

"Гвязда і калядка" — гэта першае мерапрыемства, з якога пачынаецца культурны каляндар Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

**Уля Шубзда, "Беларускае Радыё Рацыя"**

# КАЛЯДЫ Ў БЕЛАРУСКАЙ ВЁСЦЫ АЛЯКСАНДРАЎСК ПАД ІРКУЦКАМ

7 і 8 студзеня 2017 года актывісты Іркуцкага беларускага клуба "Крывічы" правялі выязное святочнае мерапрыемства: "Каляды-2017" у вёсцы Аляксандраўск Аларскага раёна Іркуцкай вобласці.



Сяло Аляксандраўск было створана ў 1901 годзе перасяленцамі з Беларусі. Да гэтага часу там можна знайсці жыхароў з дзіўнымі беларускімі прозвішчамі: Дударык, Цыбуля, Круповіч, Грыс ды інш.

Ёсць у гэтым сяле і свой фальклорны ансамбль "Крынічанька", утвораны ў 1964 годзе, і Музей беларускага побыту, дзе сабраныя ўнікальныя прадметы першых пасяленцаў.

7 студзеня мы хадзілі па хатах мясцовых жыхароў з каляднымі песнямі, жартамі, карагодамі, варажбой, з Казой, Ваўком, Мядзведзем і Варажбіткай – калядавалі. Сустракалі нас цёпла, ветліва, катэгарычна запрашалі за стол. Але мы здавольваліся толькі тым, што клалі ў мех да Механошы. У адным доме гаспадары апранулі беларускія кашулі сваіх продкаў, у іншым доме бабуля плакала ад радасці, што ўбачыла "сапраўдных" калядоўшчыкаў, як у гады яе маладосці.

8 студзеня ў клубе вёскі Аляксандраўск адбыўся канцэрт. Разам з намі выступалі мясцовы фальклорны ансамбль "Крынічанька", а таксама творчыя калектывы і салісты з суседніх вёсак. Пры канцы мы ўручылі падарункі Ансамблю "Крынічанька" і дзіцячаму фальклорнага гуртку "Туясок", а самі атрымалі граматы!

Хачу падзякаваць актывістам Клуба "Крывічы" за згуртаванасць, творчасць і камандны дух! Дзякуй Волі Галанавай, Юлі Гайсінай, Яне Фадзеевай, Зіне Капуцкай, Дзянісу Таранушэнку, Вадзіму Таранушанку, Васілю Анісімаву, Дзіму Вараб'ёву, Валі Сіняўскай, Алесі Стасевіч!

Наш творчы дэсант у чарговы раз паказаў важнасць захавання беларускай традыцыі!

Таксама мы дзякуем аляксандраўцам за сардэчны прыём.

Асаблівыя падзякі: дырэктару Дома культуры вёскі Аляксандраўск Ларысе Пятроўне Сітнікавай, кіраўніку дзіцячага фальклорнага гуртка "Туясок" Вітвіцкай Любові Мікалаеўне, кіраўніку паселішча Аляксандраўск Мялешчанцы Таццяне Уладзіміраўне!

Таксама мы дзякуем Адміністрацыі Іркуцкай вобласці, Упраўленню па сувязях з грамадскасцю – за прадстаўлены аўтобус.

Каляды адбыліся! Ідзем па Сонцы далей!

**Алег Рудакоў**

## АБВЕШЧАНЫ ПРЫЁМ ПРАЦ НА ЛІТАРАТУРНЫ КОНКУРС "ЭКСЛІБРЫС" ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

13 студзеня 2017 года ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" абвяшчае пра пачатак прыёму прац на конкурс "Экслібрыс", які сёлета мае імя Францішка Скарыны, прымеркаваны да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання і прысвечаны мастацкаму перакладу на беларускую мову.

Да ўдзелу запрашаюцца аўтары ва ўзросце да 35 гадоў, якія перакладаюць паэзію, прозу або эсэістыку з любой мовы на беларускую. Тэматыка твораў — любая. Прымаюцца пераклады, якія нідзе не друкаваліся раней.

Аб'ём: да 1 друкаванага аркуша (40 тыс. знакаў з прабеламі для прозы і эсэістыкі; 700 радкоў для паэзіі).

Журы конкурсу: Ірына Багдановіч, Лявон Баршчэўскі, Зміцер Колас, Уладзімір Папковіч, Алена Пятровіч, Андрэй Хадановіч, Ганна Янкута.

Тэксты на конкурс можна дасылаць файламі ў фармаце .doc да 15 ліпеня 2017 года на адрас sbp@lit-bel.org, пазначыўшы тэмай ліста "Экслібрыс". У лісце мусіць быць наступная інфармацыя: імя, прозвішча, дата нараджэння ўдзельніка, кантактны нумар тэлефона і e-mail.

Па выніках конкурсу мяркуюцца публікацыі ў часопісе "Дзеяслоў", газеце "Літаратурная Беларусь", а таксама выданне кнігі з перакладамі пераможцаў пры ўмове наяўнасці аўтарскага права.

За ходам конкурсу сачыце на сайце http://lit-bel.org/.

**Прэс-служба ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"**




BELARUSIAN Institute of America

G | M | F The German Marshall Fund of the United States
STRENGTHENING TRANSATLANTIC COOPERATION

## ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ВАШЫНГТОНСКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

Пераґляд адносін: спадчына і перспектывы развіцця амерыканска-беларускіх двухбаковых сувязей

**4 красавіка 2017**
**1744 R St NW, Washington, DC 20009**

Канферэнцыя, арганізаваная сумесна з Беларускім інстытутам Амерыкі (BIA) і Нямецкім фондам Маршала ЗША (GMF), будзе выконваць ролю форума для абмеркавання магчымасцяў, перспектыў і кірункаў у адносінах паміж ЗША і Беларуссю. Форум аб'яднае шырокае кола даследчыкаў і экспертаў, палітыкаў і службовых асоб, прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці і іншых зацікаўленых бакоў.

## У ЗША РАЗВІТАЛІСЯ З АНТОНАМ ШУКЕЛОЙЦЕМ

У суботу, 14 студзеня, у Нью-Джэрсі адбылося пахаванне грамадскага дзеяча, аднаго з лідараў беларускай эміграцыі ў ЗША Антона Шукелойца, які памёр на 102-м годзе жыцця.

Развітанне прайшло ў Саўт-Рыверы ў "Пахавальным доме Малішэўскага", а пахавалі Шукелойца на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку, прыходу царквы Жыровіцкай Божай Маці.

Развітальнае слова сказаў Янка Запруднік:

"Светлай памяці Антон Шукелойць часта прамаўляў на могільніках ці на памінках, развітваючыся з суродзічамі-працаўнікамі на беларускай ніве. Цяпер прыйшла чарга нам сказаць яму: "Вечная памяць".

Выконваю пры гэтым просьбу спадарыні Івонкі Сурвіллы, Старшыні Рады БНР, перадаю ейнае спачуванне беларускаму грамадству. Вось ейныя словы:

"Страцілі мы сапраўды ўнікальнага чалавека, удзельніка беларускага руху ў самыя складаныя часы нашай найноўшай гісторыі. Радны БНР Антон Шукелойць быў адным з тых людзей, якія былі верныя Беларусі і змагаліся за яе незалежнасць і яе дабрабыт на працягу ўсяго свайго доўгага жыцця. Прыклад Антона Шукелойця будзе працягваць натхняць усіх нас. Вечная яму памяць".

Да гэтых праўдзівых словаў пра нябожчыка трэба дадаць, што па сваёй натуры ён быў чалавекам лагодным, глыбока рэлігійным, выдатным знаўцам беларускай этнаграфіі, плённым працаўніком на грамадска-культурнай і палітычнай ніве. Ягоны ўдзел у арганізацыйным жыцці й рэпрэзентацыйнай дзейнасці быў разнастайным і плённым: у Радзе БНР, на доўгагадовым становішчы старшыні галоўнай управы БАЗА, у рэдакцыі газеты "Беларус", у працы Беларускага інстытута навукі і мастацтва, а таксама ў безлічы асбістых сустрэч з суродзічамі, якія прыязджалі ў Нью-Ёрк з розных краін свету, у тым ліку з Беларусі; шмат каму з іх ён быў гасцінным гідам па горадзе.

Адыход Антона Шукелойця з жыцця ў "вечную памяць" дае нам нагоду — і абавязак — задумацца над паняццем "вечная памяць", над тым, як кволая чалавечая памяць набывае якасць "вечнай". Мы, людзі старэйшага веку, добра ведаем, якой плыткай і ненадзейнай бывае асабістая памяць. Дык у чым сутнасць памяці "вечнай"?

У пошуку адказу на гэтае кардынальнае пытанне, прыгадайма старажытных мудрых рымлянаў, якія пакінулі нам сентэнцыю: "Пра нябожчыкаў або добрае, або нічога".

Дык чаму толькі добрае? А таму, што "добрая" памяць — фактар пазітыўна творчы. "Добрая" памяць пра папярэднікаў звязвае пакаленні ў адзін жывы арганізм, які мы называем народам. Мы прыпамінаем добрае ў нябожчыках, каб арыентавацца самым на добрае ў нашых учынках.

Памяць пра добрае ў дзеяннях папярэднікаў мацуе пераемнасць пакаленняў, накіроўвае на вартасныя грамадскія ўчынкі; памяць пра высакародных суродзічаў накіроўвае моладзь на правільны шлях, натхняе дзеячоў культуры, навукі і палітыкі служыць свайму народу; памяць пра нябожчыкаў-патрыётаў маральна абавязвае дзяржаўныя ўлады ўсіх узроўняў перахоўваць веды пра іх, самаахвярных сыноў і дочак нацыі.

Памяць, каб стаць вечнай, мусіць быць чалавечнай.



**"Наша Ніва", фота Сержа Трыгубовіча**

## Беларускі каляндар памятных дат на люты 2017 года

1 лютага – 90 гадоў таму, у 1927-м, нарадзілася Юзэфа Найдзюк (Брэчка), дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

2 лютага – 125 гадоў таму, у 1892-м, памёр Люцыян Крашэўскі, мастак, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

2 лютага – 85 гадоў таму, у 1932-м, нарадзілася Людміла Махнюк (Каліноўская), дзеяч эміграцыі ў ЗША.

4 лютага – 60 гадоў таму, у 1957-м, памёр Браніслаў Ямант, мастак, педагог.

5 лютага – 380 гадоў таму, у 1637-м, памёр Язэп Вельямін Руцкі, уніяцкі мітрапаліт, пісьменнік-палеміст.

7 лютага – 125 гадоў таму, у1892-м, нарадзіўся Антон Сокал-Кутылоўскі, адзін з кіраўнікоў антысавецкага Слуцкага паўстання.

8 лютага – 130 гадоў таму, у 1887-м, нарадзіўся Уладзіслаў Талочка, рэлігійны і культурна-асветны дзеяч, культуролаг, гісторык, літаратуразнавец.

10 лютага – 135 гадоў таму, у 1882-м, нарадзіўся Францішак Умястоўскі, пісьменнік, публіцыст-"нашанівец".

11 лютага – 210 гадоў таму, у 1807-м, нарадзіўся Напалеон Орда, кампазітар, мастак, удзельнік паўстання 1830–1831 гг.

11 лютага – 140 гадоў таму, у 1877-м, нарадзіўся Антон Неканда-Трэпка, грамадска-палітычны дзеяч, педагог.

12 лютага – 135 гадоў таму, у 1882-м, нарадзіўся Леў Дашкевіч, навуковец.

12 лютага – 75 гадоў таму, у 1942-м, памёр Антон Неканда-Трэпка, грамадска-палітычны дзеяч, педагог.

14 лютага – 110 гадоў таму, у 1907-м, нарадзіўся Алесь Звонак, пісьменнік.

14 лютага – 80 гадоў таму, у 1937-м, памёр Напалеон Чарнецкі, публіцыст.

14 лютага – 80 гадоў таму, у 1937-м, нарадзіўся Міхась Стральцоў, пісьменнік, крытык, перакладчык.

15 лютага – 80 гадоў таму, у 1937-м, нарадзіўся Валянцін Рабкевіч, літаратуразнавец, перакладчык, паэт.

17 лютага – 180 гадоў таму, у 1837-м, нарадзіўся Канстанцін Ельскі, падарожнік, заолаг, географ, геолаг.

22 лютага – 155 гадоў таму, у 1862-м, памёр Вікенці Дмахоўскі, жывапісец, удзельнік паўстання 1830–1831 гг.

23 лютага – 110 гадоў таму, у 1907-м, нарадзіўся Станіслаў Станкевіч, літаратуразнавец, публіцыст, выдавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

24 лютага – 115 гадоў таму, у 1902-м, нарадзіўся Янка Геніюш, грамадскі дзеяч, доктар.

24 лютага – 95 гадоў таму, у 1922-м, памёр Ядвігін Ш. (сапр. Антон Лявіцкі), пісьменнік, літаратуразнавец.

24 лютага – 45 гадоў таму, у 1972-м, памёр Алесь Вініцкі, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

27 лютага – 350 гадоў таму, у 1667-м, нарадзілася Людвіка Караліна Радзівіл, асветніца, мецэнатка.

29 лютага – 145 гадоў таму, у 1872-м, нарадзіўся Вітольд Бялыніцкі-Біруля, мастак.

**Беларусы ў свеце**
№ 1 (176), студзень 2017

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацёнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27